# ЗВЯЗДА

3 чэрвеня 1998 г. серада, № 114 (23465)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў




*ТРАГЕДЫЯ*

## РАЗ'ЮШАНЫ СЛОН СТАЎ ПРЫЧЫНАЙ СМЕРЦІ ЖАНЧЫНЫ

**У Гродзенскім заапарку адбыўся жудасны выпадак: слон, які тут ужо даўно жыў, нанёс моцныя траўмы жанчыне, што яго даглядала. Выратаваць яе не ўдалося — па дарозе ў бальніцу ад атрыманых цялесных пашкоджанняў жанчына, якой праз тры дні павінна было споўніцца 42 гады, памерла. У нябожчыцы засталося трое дзяцей, малодшаму з якіх усяго чатыры гады, старэйшая 21-гадовая дачка мае ўласнае дзіця.**

Як паведаміла дырэктар заапарка, трагедыя адбылася падчас кармлення жывёлы. Канешне, рабіць нейкія канчатковыя высновы пакуль заўчасна, але відавочна, што жанчына парушыла правілы кармлення: не адгарадзіла слана, пакуль выкладвала яму ежу, чамусьці не зрабіла гэтую аперацыю за адзін раз, і, відаць, падышла да яго вельмі блізка. Слон схапіў хобатам жанчыну за ногі і пачаў матляць у паветры. Выкліканая «хуткая дапамога» ўжо нічым дапамагчы не змагла...

Па словах дырэктара заапарка, загінуўшая адпрацавала тут шэсць гадоў, ведала ўсе правілы абыходжання з жывёламі. Інструктаж праводзіцца з работнікамі не толькі перад тым, як прыняць іх на працу, і штоквартальна, але нават пасля выхаду з «бальнічнага» ці водпуску. Пакуль гэта не пацверджана (можа і не пацвердзіцца), але слон вельмі не любіў паху алкаголю.

Дарэчы, Сурак (менавіта так завуць індыйскага слана) жыве ў заапарку Гродна ўжо больш за 40 гадоў (наогул тут яны могуць дажываць да 60—70 гадоў). Па словах дырэктара, нораў меў спакойны, быў разумнай жывёлінай — выконваў пэўныя каманды, мог зачыніць за сабой агароджу. Аднойчы ён параніў нагу і вымушаны быў паўгадзіны трымаць яе ўзнятай, пакуль рану апрацоўвалі. З яго вачэй каціліся слёзы, але ён цярпеў усё, што з ім рабілі людзі. Тым больш дзіўна (нават для работнікаў заапарка), што нешта так магло раз'юшыць Сурака. Зараз на месцы працуе спецыяльная камісія, чые высновы адносна трагедыі стануць вядомымі ўжо ў бліжэйшы час.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ВАЛЮТНУЮ ВЫРУЧКУ Ў КАСТРЫЧНІКУ «ПАДКАРЭКЦІРУЮЦЬ...»

Цалкам верагодна, што напрыканцы верасня экспарцёраў змогуць абрадаваць: мяркуецца, што будуць унесены змены ў абавязковы продаж валютнай выручкі.

У планах Нацыянальнага банка Беларусі таксама і скарачэнне ўдвая да 1 кастрычніка абавязковага продажу валютнай выручкі.

Такім чынам, аб'ём абавязковага продажу замест цяперашніх 30 працэнтаў складзе 15. Аб гэтым паведаміў старшыня праўлення Нацбанка рэспублікі Пётр Пракаповіч.

Акрамя гэтага, кіраўнік галоўнага банка на сустрэчы з журналістамі паведаміў аб тым, што ў бліжэйшы час стаўка рэфінансавання, якая сёння складае 40 працэнтаў, не зменіцца. Кіраўнік Нацбанка сказаў, што стаўка рэфінансавання ў краіне ўтрымліваецца на ўзроўні інфляцыі, і па меры яе зніжэння будзе змяншацца і памер стаўкі.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## ДАЎГІ РАСТУЦЬ, З'ЯЎЛЯЮЦЦА ПРЫПІСКІ?

Пасля красавіцкай «адлігі» рост запазычанасці па заробках зноў рэзка пайшоў угору. Паводле апаратыўных звестак з Мінстата, па стану на 25 мая агульная сума своечасова нявыплачаных грамадзянам краіны грошай склала 1 трлн. 128,9 млрд. рублёў, што перавышае паказчык папярэдняга месяца больш чым у 1,3 раза. Адметна таксама, што неплацяжы ўзраслі адразу ва ўсіх рэгіёнах Беларусі, а таксама практычна па ўсіх (за выключэннем адукацыі) асноўных галінах народнай гаспадаркі.

Як і дагэтуль, у самым незайздросным становішчы застаецца сельская гаспадарка, на якую ці не «стабільна» прыпадае дзве трэці ад агульнай сумы неплацяжоў па заробках. Толькі за апошні месяц даўгі па калгасах павялічыліся на 184,3 млрд. (зараз яны складаюць 593 млрд.), а па саўгасах — на 65,9 млрд. (203,6 млрд.) рублёў. Аднак нават гэтую нярадасную статыстыку можна паставіць пад пэўнае сумненне.

Так, паводле інфармацыі, атрыманай з Федэрацыі прафсаюзаў, пасля праведзенага ФПБ у красавіку выбарачнага знаёмства з дзейнасцю некаторых калгасаў і саўгасаў Мінскай вобласці высветлілася, што некаторыя кіраўнікі прадстаўляюць у статорганы не зусім дакладную інфармацыю, або, кажучы інакш, на паперы заніжаюць рэальную суму доўгу. Зыходзячы з гэтага, па нашай інфармацыі, у бліжэйшы час Міністэрства працы, Мінстат, Мінсельгасхарч і прафсаюзы маюць намер правесці больш дэталёвую праверку прадпрыемстваў АПК.

**Сяргей ГРЫБ.**

## «КРУГЛЫ СТОЛ» АБ ВОСТРЫХ ПРАБЛЕМАХ

У Маскве, у Пасольстве Рэспублікі Беларусь, адбыўся «круглы стол» «Саюз Беларусі і Расіі». Удзельнікі адзначылі сур'ёзнае значэнне Саюза дзвюх брацкіх дзяржаў для ўсёй СНД. Было падкрэслена, што працэсы інтэграцыі набываюць незваротны характар. І ў гэтай сувязі асаблівую ролю адыгрываюць кантакты беларускага кіраўніцтва з рэгіёнамі Расіі. Разам з тым, як падкрэслівалася, існуе яшчэ вялікі рэзерв для паглыблення і пашырэння інтэграцыйных працэсаў.

У сустрэчы прынялі ўдзел адказныя супрацоўнікі МЗС Расіі, дыпламаты пасольстваў краін СНД, прадстаўнікі навуковых колаў Беларусі і Расіі.

**А. ПІНСКІ.**

*АДУКАЦЫЯ*

## МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ АБВЯРГАЕ «ДРУГАСОРТНАСЦЬ» СЕЛЬСКІХ АБІТУРЫЕНТАЎ

**Штогод у вышэйшыя навучальныя ўстановы паступаюць 25 працэнтаў выпускнікоў гарадскіх і 20 працэнтаў выпускнікоў сельскіх сярэдніх навучальных устаноў краіны. Аб гэтым падчас прэс-канферэнцыі, прысвечанай прыёмнай кампаніі-98, паведаміў журналістам міністр адукацыі РБ Васіль Стражаў.**

На сённяшні дзень кожны чацвёрты беларускі школьнік жыве ў сельскай мясцовасці. Аднак ужо зараз можна прагназіраваць, што ўсяго праз год-два іх колькасць значна павялічыцца: справа ў тым, што 40 працэнтаў «першаклашак», якія пераступяць у будучым навучальным годзе парог школы, стануць навучэнцамі менавіта сельскіх школ. А вось у горадзе, згодна з дэмаграфічным прагнозам, чакаецца скарачэнне школьнага кантынгенту.

Трэба заўважыць, што дэмаграфія прымушае Міністэрства адукацыі пэўным чынам карэкціраваць свае планы: улічваючы тыя абставіны, што ў бліжэйшыя чатыры гады колькасць выпускнікоў беларускіх школ у параўнанні з 1996/97 навучальным годам будзе на 15 працэнтаў большая (дасць аб сабе знаць, нарэшце, «дзіцячы бум» сярэдзіны 80-х), ужо ў наступным годзе ў дзяржаўных навучальных установах рэспублікі будзе павялічаны прыём абітурыентаў на дзяржаўнае фінансаванне.

Дарэчы, цікавасць выклікае наступны факт: у мінулым навучальным годзе у дзяржаўных ВНУ за дзяржаўны кошт навучаліся 25 тысяч студэнтаў, а за свае грошы — 31 тысяча чалавек, што нават больш за колькасць навучэнцаў недзяржаўных інстытутаў і універсітэтаў.

Што датычыцца пытання наконт існуючай розніцы ў падрыхтоўцы гарадскіх і сельскіх абітурыентаў, то, па словах Васіля Стражава, у мэтах стварэння абітурыентам роўных магчымасцяў пры паступленні ў ВНУ, сёлета вышэйшыя навучальныя ўстановы будуць выдзяляць спецыяльнасці для правядзення пасобнага конкурсу паміж выпускнікамі сельскіх і гарадскіх школ. Акрамя таго, па шэрагу спецыяльнасцяў будзе ажыццяўляцца мэтавая кантрактная падрыхтоўка, якая таксама значна павялічыць шанцы сельскай моладзі на атрыманне вышэйшай адукацыі. Між іншым, натхніць сельскую моладзь на пакарэнне адукацыйнага алімпа, магчыма, дапаможа тая акалічнасць, што 90 працэнтаў прафесарскага саставу флагмана айчыннай навукі — БДУ на цяперашні момант складаюць выхадцы з сельскай мясцовасці.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## ПЕРШЫЯ З ПЕРШЫХ









*Першым выпускам малодшых камандзіраў пачалося адраджэнне традыцыі палкавых школ у Беларусі. Двойчы на год у 3-й брыгадзе войскаў спецыяльнага назначэння будуць адбывацца выпускі сяржантаў. Нядаўна генерал-маёр Сівакоў павіншаваў першых выпускнікоў і ўручыў ім спецыяльныя сертыфікаты. А даўні сябар мінскіх спецназаўцаў айцец Фёдар благаславіў хлопцаў у берэтах на праведны шлях.*

**Анатоль КЛЯШЧУК.**

Фота аўтара.

## «УКЛАДАННЕ» Ў ДЗЯЦЕЙ — ГЭТА ЎКЛАДАННЕ Ў БЯСПРОЙГРЫШНУЮ ПЕРСПЕКТЫЎНУЮ СПРАВУ

**Незвычайнае «збудаванне» з'явілася прама ля цэнтральнай прахадной канцэрна «Амкадор»: размаляваны, трохметровай вышыні замак. Гумавы. А ўнутры замка — крутая вінтавая горка. Зразумела, гэту горку «асядлала» шумлівая дзятва...**

А яшчэ яна дружна асядлала пагрузчыкі і іншыя машыны, выпускаемыя ў канцэрне, якія стаялі тут жа, непадалёк ад прахадной, — былі выгнаны за яе вароты спецыяльна. Побач хлапчукі і дзяўчынкі «гарцавалі» на конях; працавалі атракцыёны і палявая кухня з салдацкай кашай; артысты тэатра юнага гледача паказвалі Казку аб дабраце...

Так адзначалі Міжнародны дзень дзяцей (і заканчэнне навучальнага года) у канцэрне «Амкадор». Дакладней, так святкавалі дзеці супрацоўнікаў канцэрна, а таксама жыхары Фрунзенскага раёна сталіцы, якія прыйшлі на гэта свята. Былі тут таксама розныя конкурсы і спартыўная эстафета, а больш за 100 вучняў атрымалі з рук прэзідэнта канцэрна Валянціна Радзівонава каштоўныя падарункі — за выдатную вучобу.

На арганізацыю гэтага свята канцэрн выдзеліў немалую суму. Але, як падкрэслілі тут, грошы ўкладзены ў бяспройгрышную, перспектыўную справу. У канцэрне выплачваюць дзецям яго супрацоўнікаў — выдатнікам вучобы стыпендыі; за кошт яго сродкаў камп'ютэрызаваны класы ў 116-й і 96-й школах.

Сёлета 660 дзяцей — працаўнікоў канцэрна — (па 20 у змену) адпачнуць у яго дзіцячым аздараўленчым лагеры «Алімпія», прычым пуцёўка ў лагер абыдзецца бацькам усяго ў 5 працэнтаў ад яе поўнага кошту, астатняе, зразумела, даплаціць прадпрыемства.

Акрамя таго, 240 дзяцей адправяцца на 12-дзённы адпачынак у Балгарыю — пуцёўка таксама танная і ў дадзеным выпадку таксама спансіруе канцэрн. А яшчэ сёлета многія прадстаўнікі прывілеяванага класа «Амкадора» разам са сваімі бацькамі адпачнуць на беразе Чорнага мора — на ўласнай канцэрнаўскай базе адпачынку.

Шкада, не ўсе і не паўсюдна ў рэспубліцы робяць (дакладней — могуць рабіць) такія важкія і патрэбныя ўкладанні.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## НА НАЧНОЙ ДЫСКАТЭЦЫ СТРАЛЯЛІ Ў ТРЭНЕРА ХАКЕЙНАЙ ЗБОРНАЙ БЕЛАРУСІ

**Як ужо паведамляла наша газета, у мінулыя выхадныя на начной сталічнай дыскатэцы «Макс-шоу», што ў мінскім кінатэатры «Кастрычнік», прагучалі выстралы. Сёння дакладна вядома, што адзін з параненых — трэнер мінскага клуба «Юнацтва» і зборнай Беларусі па хакею Міхаіл Захараў...**




Пакуль што падзеі, якія адбываліся пад раніцу ў мінулую суботу, заблытаныя і туманныя. Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», стрэлы прагучалі прыблізна каля пяці гадзін раніцы. Па папярэдняй версіі, Міхаіл Захараў, які накіроўваўся з другога паверха на першы, быў аклікнуты, пасля чаго і прагучаў першы стрэл. Другім стрэлам незнаёмец параніў ахоўніка дыскатэкі (сцвярджаюць, між тым, што быў і трэці стрэл), і, што называецца, «растварыўся». Ужо праз паўгадзіны трэнер быў дастаўлены ў 9-ю клінічную бальніцу, дзе яму тэрмінова была зроблена аперацыя (на шчасце, куля прайшла навылёт, і не зачапіла жыццёваважных органаў).

«На жаль не можам вам падрабязна расказаць аб інцыдэнце, бо самі не былі відавочцамі, — паведамілі нам супрацоўнікі адміністрацыі начной дыскатэкі. — Усе пытанні да аховы».

Вельмі і вельмі шкада, што само кіраўніцтва на адно наша простае, але рэзоннае пытанне: «Як здарылася, што пры вашай хвалёнай сістэме пропуску наведвальнікаў незнаёмы змог пранесці на дыскатэку агнястрэльную зброю?» так і не змагло даць уразумляльнага адказу. «Спала ў шапку» ахова? Страляючы быў іх знаёмым? Альбо пранёс зброю ў кінатэатр зараней? Пытанні пакуль застаюцца без адказаў, даць якія павінна следства. Дарэчы, «справа» гэта, напэўна, настолькі засакрэчаная, што ў следчым аддзеле Савецкага РАУС нам нават не паведамілі прозвішча чалавека, які вядзе гэта расследванне. Не кажучы ўжо аб некаторых іншых фактах, якія датычацца нашумелага інцыдэнту.

Не ўдалося даведацца нам аб падрабязнасцях гісторыі і непасрэдна ад Міхаіла Міхайлавіча — ля яго палаты ў 1-м хірургічным аддзяленні выстаўлены пост аховы, які прапускае да Захарава толькі сваякоў і прадстаўнікоў следчых органаў. Самі ахоўнікі паведамілі нам, што здароўе іх «апекуна» ідзе на папраўку — учора Міхаіл Захараў ужо пачынаў хадзіць. «У кашулі чалавек нарадзіўся, — пракаменціраваў пасляаперацыйны стан хакейнага трэнера яго лечачы ўрач Аркадзь Ларыёнаў. — А ўвогуле, пакуль ідзе следства, даваць нейкія ацэнкі я не маю права...»

Версій з нагоды здарэння шмат. Наколькі яны блізкія да ісціны — іншая справа. Адны сцвярджаюць, што адбылася звычайная бытавая «разборка» (маўляў, нешта не падзялілі паміж сабой), другія не выключаюць, што была спроба выканаць заказное забойства (праўда, спецыялісты лічаць, што ў такім выпадку «кілер» спрацаваў занадта непрафесійна), ёсць варыянт і таго, што Захарава проста маглі з кімсьці пераблытаць.

Следства ідзе, і, як стала вядома карэспандэнтам «Звязды» з дакладна інфармаваных крыніц, зараз апэратыўнікі «зацікавіліся» адным з хакеістаў беларускай хакейнай зборнай, які, магчыма, можа праліць святло ў гэтай пакуль што таямнічай справе.

**Ігар ШЧУЧЭНКА, Алесь СІВЫ.**

ПАСТАНОВА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ ВЫБРАННІ В. З. ШУКЛІНА СУДДЗЁЙ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

У адпаведнасці з пунктам 3 часткі першай артыкула 98 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь выбраць Шукліна Валянціна Зосімавіча суддзёй Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь П. ШЫПУК**

29 мая 1998 г., г. Мінск, № 325-СР/IV

## ПРЭЗІДЭНТ ДАРУЧЫЎ УРАДУ

Па даручэнню прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі 2 чэрвеня ў Савеце Міністраў былі разгледжаны прапановы па ўзмацненню ролі дзяржавы ў пытаннях вытворчасці, захоўвання і рэалізацыі алкагольных і тытунёвых вырабаў. Як паведамілі БЕЛТА з Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, па выніках гэтага разгляду Савет Міністраў прапануе кіраўніку дзяржавы сістэму мераў, накіраваную на паляпшэнне дзейнасці ў гэтай сферы і безумоўную абарону дзяржаўных інтарэсаў.

**БЕЛТА.**

## ДЗЯРЖАЎНАЯ МАНАПОЛІЯ НЕ АЗНАЧАЕ ЗАБАРОНУ НА ВЫТВОРЧАСЦЬ АЛКАГОЛЮ НА ПРЫВАТНЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАХ

Савет Міністраў Беларусі рыхтуе падрабязны даклад прэзідэнту краіны аб узмацненні ролі дзяржавы ў галіне кантролю над вытворчасцю, рэалізацыяй і захоўваннем алкагольнай і тытунёвай прадукцыі. Гэтаму пытанню была прысвечана спецыяльная ўрадавая нарада, якая адбылася 2 чэрвеня.

Прэм'ер-міністр рэспублікі Сяргей Лінг падкрэсліў на нарадзе асаблівую сацыяльную значнасць гэтай праблемы. Дзяржаўная спіртавая і тытунёвая манаполія дае магчымасць гарантаваць не толькі здароўе нацыі, але і служыць сур'ёзнай крыніцай фінансавання нацыянальнага бюджэту. Напрыклад, доля акцызных плацяжоў за алкагольную прадукцыю ў агульным аб'ёме падатковых паступленняў у параўнанні з 1993 годам падвоілася і складае сёння амаль 8 працэнтаў. За 4 месяцы гэтага года ў даход дзяржавы толькі па гэтаму артыкулу пералічана 3,8 трыльёна рублёў. На ўнутраным рынку намецілася ўстойлівая тэндэнцыя да скарачэння спажывання імпартнай алкагольнай прадукцыі, пастаўкі якой за апошнія два гады зменшыліся ў тры разы.

У гэтым сельскагаспадарчым сезоне чакаецца, што рэспубліка ў асноўным забяспечыць свае патрэбнасці ў высакаякасным збожжы для вытворчасці спірту на ўзроўні каля 200 тысяч тон. Пры гэтым спецыялісты прагназіруюць некаторае замаруджанне тэмпаў росту выпуску моцных алкагольных напояў. Выслабаненае месца на рынку павінны заняць вінаградныя і якасныя пладова-ягадныя віны. Аб'ёмы продажу апошніх у 1997 годзе павялічыліся на 57 і 37 працэнтаў адпаведна.

У ходзе нарады было адзначана, што дзяржаўная манаполія не азначае забарону на вытворчасць алкаголю ў альтэрнатыўным сектары эканомікі. Зразумела, пры ўмове выканання ўстаноўленых правілаў. Існуюць даволі жорсткія схемы ліцэнзавання гэтага віду дзейнасці, кватавання паставак у гандлёвую сетку і маркіроўкі гатовай прадукцыі.

Сёння вядзецца размова аб увядзенні дадатковай абмежавальнай меры — абавязковым дэклараванні аб'ёмаў вытворчасці алкаголю. Некаторыя змяненні, напэўна, адбудуцца і ў сферы цэнаўтварэння. Справа ў тым, што дзяржаўны лікёрагарэлачны завод атрымлівае прыбытак з адной выпушчанай бутэлькі гарэлкі 200 — 300 рублёў, у той час як магазін «наварвае» каля 6-7 тысяч.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

*Футбол*

## У СТАНЕ ЛІДЭРАЎ СТАНОВІЦЦА ЦЕСНА

Фактычна без змяненняў засталася турнірная табліца пасля завяршэння 8-га тура VIII чэмпіянату Беларусі па футболу, які прайшоў у мінулыя выхадныя. Бадай, толькі ў групе лідэраў стала трохі цеснавата. Адзін з іх — сталічнае «Тарпеда» пачынала тур са сваімі аднаклубнікамі з Магілёва «Тарпеда-Кадзіна». Гульня завяршылася ўнічыю — 2:2. Гэты галявы паказчык быў перакрыты ў матчах «Белшына» — «Камунальнік», «Нафтан-Дэвон» — «Маладзечна». Абедзве сустрэчы завяршыліся з лікам 5:1 на карысць гаспадароў. На адзін мяч менш пабывала ў варотах гасцей у паядынку паміж мазырскай «Славіяй» і салігорскім «Шахцёрам». Лік сустрэчы — 4:1.

Вынікі астатніх сустрэч: Дынама (Мн) — Днепр-Трансмаш — 2:1, Нёман — Лакаматыў-96 — 0:0, Гомель — Дынама (Бр) — 1:0, Дынама-93 — БАТЭ — 1:1.

Турнірная табліца пасля 8-га тура

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Днепр-Трансмаш | 8 | 5 | 1 | 2 | 19—5 | 16 |
| 2. Тарпеда | 8 | 4 | 4 | 0 | 13—5 | 16 |
| 3. БАТЭ | 8 | 4 | 3 | 1 | 14—9 | 15 |
| 4. Тарпеда—Кадзіна | 8 | 4 | 2 | 2 | 13—10 | 14 |
| 5. Славія | 8 | 4 | 2 | 2 | 13—11 | 14 |
| 6. Дынама-93 | 8 | 3 | 4 | 1 | 13—6 | 13 |
| 7. Белшына | 8 | 3 | 3 | 2 | 9—5 | 12 |
| 8. Лакаматыў-96 | 8 | 3 | 3 | 2 | 7—5 | 12 |
| 9. Гомель | 8 | 3 | 3 | 2 | 8—7 | 12 |
| 10. Шахцёр | 8 | 3 | 3 | 2 | 7—10 | 12 |
| 11. Дынама (Бр) | 8 | 3 | 1 | 4 | 9—7 | 10 |
| 12. Дынама (Мн) | 8 | 3 | 1 | 4 | 7—10 | 10 |
| 13. Нафтан-Дэвон | 8 | 2 | 1 | 5 | 11-14 | 7 |
| 14. Нёман | 8 | 1 | 3 | 4 | 4—12 | 6 |
| 15. Маладзечна | 8 | 1 | 0 | 7 | 8—20 | 3 |
| 16. Камунальнік | 8 | 0 | 2 | 6 | 4—23 | 2 |

Чарговы, 9-ы тур пройдзе 3-4 чэрвеня.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 2 ЧЭРВЕНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 47000 | 48000 | 25700 | 26900 | 7200 | 7800 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 48000 | 48500 | 26800 | 27300 | 7770 | 7870 | 228-2055 |
| Пріорбанк | 47500 | 48000 | 26600 | 27000 | 7700 | 7900 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 35860.00 | | 20172.13 | | 5820.00 | | Курс на 3.06.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.166 | | 3.4613 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, установленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс (міжбанкаўскі рынак) | 66200 | 67200 | 37172 | 37744 | 10721 | 10891 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс (прыблізна) | 58000 | 58500 | 32400 | 32900 | 9100 | 9600 | |

ЕСВ
„Звезда пленительного счастья!"
Вам желаю того же
ВСпиваков

**Такое шчырае пажаданне чытачам «Звязды» напісаў галоўны «віртуоз Масквы» Уладзімір СПІВАКОЎ.**

*Інтэрв'ю з ім у гасцёўні «Звязды» чытайце на 3-й стар.*



**Традыцыйнае свята беларускай культуры «Браслаўскія зарніцы-98» адбыўся ў лесапарку Лесьнічоўка ў Браславе.**

Два дні з раніцы да позняга вечара разам з жыхарамі горада весяліліся артысты з Ушацкага, Докшыцкага, Шумілінскага, Лепельскага, Міёрскага і іншых раёнаў Прыдзвіншчыны. У свяце ўдзельнічалі таксама госці і артысты з латвійскага горада Даўгаўпілса.

У рамках свята прайшоў першы абласны конкурс народных майстроў па лозапляценню «Лазовы прут», адбылося знаёмства з беларускай кухняй, былі выстаўлены арыгінальныя работы ўмельцаў Віцебшчыны.

**На здымку**: сям'я майстроў па лозапляценню з Міёраў — муж Баляслаў, жонка Галіна і сын Аляксандр Чарняўскія са сваімі работамі.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**




Выпуск № 18 (406)

Рубрыку вядзе Мікалай ЧАХОЎСКІ

# Карміць трэба. Але не перакормліваць!

**Ніхто не адважыцца сказаць, што вясна гэтага года вельмі ўжо адметная. Пад Мінскам нават маразоў не было. Маецца на ўвазе працяглы іх перыяд — дні тры ці чатыры. Толькі недзе ў Стаўбцоўскім раёне ды на Палессі крыху пагулялі гэты свавольнік.**

Вядома, усе агародныя культуры спаўна выкарысталі працяглае цяпло, сонца і вільгаць. На кожным участку зелянеюць культурныя расліны.

Першыя самастойныя крокі расліны заўсёды адказныя. Караням, колькасць якіх імкліва павялічваецца, неабходны ў першую чаргу фосфар. Вядома, не ў гранулах, а ў растворы. Надзейныя носьбіты (хоць і не ў дастатковай колькасці) гэтага элемента — перагной і кампост, а яшчэ гранулы суперфасфату.

Настой суперфасфату гатаваць так: у эмаліраванае вядро ўсыпаць 300—400 г двайнога суперфасфату ці да 500 г звычайнага. Заліць вадою, падагрэтай да 50 градусаў. Сістэматычна мяшаць. Праз суткі-другія наш прадукт растворыцца ў вадзе. Асадак зліць — у ім якраз наша выцяжка. Мутнаватае рэчыва на дне выкінуць на кампостную масу ці на гной — там так званыя «спадарожныя» элементы.

Для падкормак браць дзесятую частку гатовай выцяжкі — крыху менш за літр. Уліваць у калодзежную ці дажджавую ваду (тое ж вядро) і паліваць пад корань.

Можна выкарыстоўваць попел, асабліва той, які перагарэў у печы на пыл. На вядро браць літровы слоік. Заліваць вадою і зноў настойваць, зліваць з асадку. У тым канцэнтраце будзе шмат калію і кальцыю (часам трэць), амаль дзесятая частка суперфасфату і зусім нямнога мікраэлементаў. Але ўсе яны надзвычай карысныя. На вядро вады для падкормкі бяруць літр. І абавязкова дадаюць настой гною (1:8) і суперфасфату.

Морква, цыбуля, радыска, пятрушка, кроп узмоцнена фарміруюць сапраўдныя лісточкі. У зямлі іх каранёвая сістэма што той павуцінны клубок: ва ўсе бакі і ў глыбіню бягуць карані. Яны шукаюць розныя элементы сілкавання. Разам з фосфарам, які спрыяе атрыманню больш буйных пладоў (і іх многа!), патрэбны азот, калій і кальцый, для цыбулі — яшчэ і сера. Вельмі дарэчы будуць вадзяністыя выдзяленні жывёлы, якія якраз і ўтрымліваюць падобныя элементы. Мачу разводзяць у чатыры—пяць разоў чыстай вадою. А ўносяць пад корань — вядро на два пагонныя метры. Можна апрацаваць і лісце. Але канцэнтрацыя раствору ў тры-чатыры разы слабейшая, цвёрдых частак няма.

Апошні перыяд развіцця раслін пачынаецца пасля масавага цвіцення і працягваецца да збору ўраджаю. Зноў неабходны ўмераныя дозы азоту і калію, а для дружнага выспявання — і фосфар. У гэты перыяд добра падкарміць бульбу раствораm каравяку. Там будзе ўсяго дастаткова, у тым ліку і мікраэлементаў.

Як адзначылі, азот найбольш неабходны ў сярэдзіне вегетацыі. Толькі ў ранніх культур пік прыпадае на познюю вясну. Зазначым яшчэ, што радыска, кроп, пятрушка «просяць» азоту ў большай колькасці, чым морква і нават буракі, бо павінны нарасціць вонкавую зялёную масу.

Вялікае значэнне мае сам падбор элементаў сілкавання. Важна, каб не было рэзкага перакосу ў бок аднаго з іх. Напрыклад, у час цвіцення і тым больш перад ім даваць азот проста шкодна. Памідоры і агуркі будуць «жыраваць», а пладоў не завяжуць, ці завяжуць, але позна. Самі плады будуць вадкімі. Калі яшчэ і высокая тэмпература, то расліны могуць наогул скідваць кветкі.

Вынікі любой падкормкі можна пабачыць не раней чым праз два тыдні. Таму не спяшайцеся, калі вам раптам здалося, што расліна не адрэагавала, не прыбавіла ў тэмпах росту. Аддача будзе! І толькі праз 14 ці 20 дзён рабіце паўторную падкормку. Лепш гэта рабіць вечарам пасля дажджу ці паліву. Мэтазгодна рабіць у міжрадкоўях баразёнкі і заліваць туды нашы «лекі», закрываючы разоры. Усё карыснае паступіць па прызначэнню — да каранёў.

Выключэнне можна зрабіць толькі для агуркоў. Яны любяць частыя падкормкі (на тыдзень да двух!), палівы падагрэтай на сонцы вадой. І палівы не толькі пад корань, але і па лісцях. Чым больш частая «лазня», тым вышэйшыя тэмпы развіцця і, вядома ж, больш важкія зборы.

## Перапіска з чытачамі

*Л. А. Жызнеўскаму, г. Баранавічы*

Здавалася, што хвароба дрэў на рак — ужо пройдзены этап. Але не-не ды прыходзяць пісьмы пра гэту небяспечную, амаль на 100 працэнтаў невылечную хваробу. Вось і вы напісалі ліст...

Нягоды ідуць ад спораў грыбка. Парша, напрыклад, навальваецца на лісце і плады, какамікоз — спачатку на плады і лісце, а пасля «сушыць» галінку. Рак мае справу з карой і драўнінай. Заўсёды селіцца на разгалінаваннях, у нейкім «ціхім» куточку. Спачатку стварае ямку на кары, пасля пранікае глыбей, да драўніны. На двухгадовай ране відаць кольцы драўніны, «апрацаваныя» хваробай. Калі на гэтым месцы зрабіць перпендыкулярны разрэз, то ўбачым, што тканкі дрэва пацямнелі і ўнутры. Як правіла, такая галіна засыхае. Калі ў ёй жыццё нейк тлее, то ні сапраўдных лісточкаў, ні пладоў нармальных памераў няма.

Дрэва трэба мяняць. Магчыма, часовы вынік дасць ачыстка раны. Працаваць вострым нажом. Дайсці да здаровых месцаў. Пасля апрацаваць двойчы праз тры—пяць дзён медным купарвасам (10 г на літр вады). Замазаць садовым варам.

Паглядзець, ці не хвараюць дрэвы ў сваім садзе і садзе суседа. Разам змагацца з бядою.

На нашым малюнку якраз гэты небяспечны рак.

*Алене Копаць, Слаўгарадскі раён.*

Праполка — справа тонкая. Тут нельга «перагінаць» палку. А як робім мы? Часцей за ўсё замест лёгкага рыхлення амаль пеpакопванне міжрадкоўяў. У выніку насенне шкодных раслін вываpочваецца наверх ці бліжэй да паверхні і, безумоўна, кранаецца ў рост. Яму якраз і не хапала паветра, каб шпарка кінуцца ўслед за культурнымі раслінамі. Яшчэ мы не выдзіраем карані. Абарвём зверху траўку і думаем, што работа зроблена. Пупышкі росту засталіся. І літаральна праз дзень-два зноў зелена ад пустазелля.

У продажы ёсць спецыяльная матычка-пальольнік. Яе мы прывoдзілі на малюнку. Такой прыладай дастаткова адзін раз правесці па пустазеллю, заглыбіўшы лязо на 0,5—1 см, і ўсё будзе найлепшым чынам. Карані згніюць у зямлі самі, а верхняя частка, зрэзаная нажом, высахне на сонцы.

Аддзел «Сядзіба» вельмі часта цытуе выказванні амерыканскага даследчыка Мітлайдэра. Яго градка полецца адзін раз. Потым не рыхліцца, і таму і пустазелля няма. Насенне, якое занясуць птушкі, агульнага малюнка не псуюць, бо яго літаральна адзінкі. Да таго ж непажаданых «гасцей» губіць высокая канцэнтрацыя хімугнаенняў.

Падвядзём вынік: каб градка не зарастала, не пераварочвайце зямлю. Не пакідайце вялікіх каранёў пырніку, не рассякайце іх. Абавязкова рабіце праполку ў сухое надвор'е: выкінутыя «ворагі» загінуць на сонцы.

*А. К. Калінінай, Мінскі раён.*

Вясна і пачатак лета — найлепшы перыяд для падкормкі дрэў і кустоў азотнымі ўгнаеннямі. Гэты элемент вельмі рухавы. Яго «забірае» паветра, ён вымываецца ў ніжэйшыя слаі глебы дажджамі. Таму вельмі важна ўносіць азотныя тукі, як падкрэслівалі не раз, у невялікіх дозах і некалькі разоў. Энергія будзе выкарыстоўвацца поўнасцю. Асабліва «лятучая» мачавіна (карбамід). Салетра больш устойлівая.

Цяпер кінем позірк на прыствольныя кругі. Пераважная большасць каранёў-працаўнікоў якраз за межамі сучкоў. Глыбіня залягання — 30 см—1 метр. Вось сюды і трэба даць нашы веснавыя «абеды». Пад лапату ці плуг. Норма — 0,5-літровы слоік на 15-гадовае дрэва і дзве-тры шклянкі — пад больш сталае. Асабліва карыснымі будуць азотныя ў год добрага ўраджаю.

Другі раз кормім азотам пасля ападання так званай лішняй завязі. Гэта бывае ў чэрвені, бліжэй да другой паловы. «Нормы» можна павялічыць на чвэрць.

Сяляне маюць гной — самы цудоўны з усіх элементаў сілкавання. Яго нельга проста раскідваць пад дрэвамі. Абавязкова закрываць пад лапату ці плуг. А норма тут такая — вядро на 1 кв. метр, добра разбіць. І не сушыць, а адразу ж змясціць пад пласт зямлі. Калі гэтага не зробім, то да «адрасата» — каранёў дойдзе малая доза ўгнаенняў. Больш панясе паветра, забруджваючы навакolле. Асабліва шмат страцім азоту — самага каштоўнага, што ёсць у гноі.

## Ураджай па... знаках задыяку

Наступіў апошні месяц сяўбы і першы месяц лета — чэрвень. Многае шпарка ідзе ў рост, радуе вока гаспадароў. Але што-небудзь ды не ўдалося людзям зрабіць як след. Выправіць хібы якраз не позна. Тым больш, што наступіўшы месяц прагназіруецца цяплейшым чым сярэднія лічбы.

Вось якія найлепшыя дні для пасадак і пасеваў у чэрвені. Баклажаны — 3—7, рэдзька — 17, 18, гарох і фасоля — 3—7, капуста (усе віды) — 25, бульба — 10—12, цыбуля на пяро — 6—11, цыбуля на рэпку — 10—12, морква — 15—16, агуркі і кукуруза — 25, перац салодкі — 6—10, памідоры — 6—9, пятрушка на ліст — 25, на корань — 11—12, 15—16, радыска — 11—12, буракі сталовыя — 11—12, 15—16, 20—21, кветкі з насення — 1—5, 28—30.

З 1 чэрвеня па 10 і з 25 па 30 Месяц будзе расці (садзім-сеем усё, што фарміруе ўраджай над зямлёю); з 11 па 24 чэрвеня Месяц убывае (садзім-сеем усё, што дае ўраджай у глебе).

У чэрвені «забароненых» дзён тры — 13,14 і 24. Неспрыяльных больш — 16—18, 22—23, 26—27.

Каб папярэдзіць пытанні чытачоў, адзначым, што цяпер з'явілася нямала розных складальнікаў. Кожны на свой манер «чытае» зорнае неба. Хто з іх мае рацыю, а хто робіць памылкі, праверце практыкай. Каляндар, які прапануе газета «Звязда», складзены прафесарам Феліксам Вялічкам (Масква). Газета друкуе яго парады штогод. Яны правераны практыкай. Ніводнага званка ці сігналу, што нешта атрымалася нядобра.

## Брашуры якраз да сезона

Працягваецца продаж брашурак «Ураджайныя градкі» (газета «Для Вас»). Акрамя Мінска, дзе гэта работа добра пастаўлена ў магазінах «Сельгасхімія» (Чырваназорная, 8) і «Сельгаскніга» (праспект Скарыны), наша выданне ёсць у магазінах «Сельгасхімія» Гомеля і Гродна, раённых паштовых аддзяленнях Рагачова і Шчучына.

Можна заказаць выданні ў рэдакцыі. Але іх цана большая, бо сёння вельмі дорага каштуе перасылка: 6000 рублёў — за адзін экземпляр і 5500 рублёў — за два і больш экземпляраў (за кожны).

У нас ёсць наступныя брашуры: № 17 (як атрымаць тону памідораў і 500 кг бульбы з соткі, а яшчэ высокія ўраджаі перцаў, баклажанаў, фізалісу, тытуню); № 18 (агарод па-замежнаму — ЗША, Англія, Чэхія); № 19 (усё пра сад — пасадкі, угнаенні, абрэзка, прышчэпкі і г. д.); № 21 (кветкі ля дома, здабыткі ўмельцаў).

З любога паштовага аддзялення на разліковы рахунак газеты «Звязда» вышліце перавод з указаннем нумароў брашур. Разліковы рахунак газеты такі: 3012210270016 код 739 у АКБ «Белбізнесбанк» г. Мінска. Адрас газеты: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10А, «Звязда».

Разборліва ўкажыце свой адрас з індэксам, прозвішча, імя і імя па бацьку. Якія брашуры жадаеце набыць (нумары), паведамляйце ў ніжняй частцы грашовага пераводу (паметка «Для пісьма»). Як толькі прыйдзе перавод, адразу ж высылаем бандэроль. У канцы мая высылалі брашуры па заказах да 25 мая ўключна.

## «Паласа перашкод» на... дрэве

Кожны год тысячы вусеняў, мурашак, тлі, клапоў, мух, розных лічынак атакуюць дрэвы. Яны бы разбойнікі з'ядаюць і нішчаць плады і лісце. Чалавек мусіць прымяняць розныя атруты, апырскваць дрэвы. Але многія шкоднікі прызвычаіліся і да ядаў. Мы на іх льём атруту, а ім хоць бы што. Быццам смяюцца з нас. Ды і само прымяненне хімічных сродкаў не зусім бясшкоднае. Дзе-небудзь ды пакіне след.

З ворагамі саду можна змагацца і падручнымі сродкамі. Напрыклад, прыладжваць на ствалы лоўчыя паясы, паперу, нават шлангі, разрэзаныя і напоўненыя вадкай змазкай для матораў. Вось вам і свая «паласа перашкод».

Шланг да 3—5 см у дыяметры, які выйшаў са строю, разрэзаць на кавалкі ўздоўж і ўпоперак. Востры нож добра яго рэжа, калі папярэдне крыху разагрэць у вадзе.

Пры надзяванні на ствол шлангаў клапаціцца, каб полая частка была звернута да нас пад вуглом у 100—120 градусаў. Замацоўваем прыстасаванне дротам ці стужкай з поліэтылену (не гніе і наогул не псуецца). Адтуліну запаўняем салідолам ці іншай змазкай. Яна не павінна засыхаць ці пакрывацца плёнкай. Час ад часу аглядаем яе і папраўляем.

Шкоднікі ідуць знізу ўверх (вясна) і зверху ўніз (лета і восень). Дасягаюць узведзенай намі перашкоды і даюць «задні ход». Тыя з іх, хто рызыкне пераадолець «паласу перашкод», абавязкова загразне ў салідоле.

Каб гэтая перашкода дзейнічала бездакорна, умовы павінны быць такімі: ствол без адтулін і ямак; сама гума без дзірачак, добра прыліпае да дрэва; абвязка шланга толькі ўнутры; шланг запоўнены да краёў змазкай. Вядома, ніякіх «кладачак», «дошчачак» для перапраўвы не павінна быць.


Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.



*МОДА*

# Дзірка на таліі — каб дыхала цела?

Віншую «худышак» жаночага полу — нарэшце і на вашай вуліцы настала свята. У часопісах мод адзенне летняга сезона дэманструюць бязгрудыя хударлявыя дзяўчынкі з вузенькімі плечыкамі. Новае пакаленне мадэляў не можа пахваліцца пышнымі формамі. І худзізну мадэльеры не хаваюць, наадварот, акцэнтуюць.

Майкі, бодзі, блузкі ды сукенкі на лета маюць максімальна просты сілуэт. Яны не абцяжараныя дэталямі: няма не толькі кішэняў, каўняроў, але і рукавоў. Уся летняя вопратка трымаецца на плячах на шлейках — вузкіх ці шырокіх. А самая эксплуатуемая мадэль — асіметрычная. У ёй адно плячо схаванае пад шырокай шлейкай, а другое застаецца адкрытым або перасякаецца тонкай палоскай.

Дарэчы, палоска — вельмі папулярны малюнак на тканіне. Кветкавы малюнак практычна адсутнічае, калі не лічыць аплікацый і вышыўкі. У каляровай гаме пераважаюць ружовы, бэжавы, светлашэры, белы, чорны. Хаця выкарыстоўваюцца таксама чырвоны, блакітны, салатавы, жоўты. Многія рэчы шыюцца з празрыстых тканін. Пры гэтым ліф сукенак аздабляецца карункамі, што робіць вопратку вельмі падобнай на ніжнюю бялізну. Уласна, стыль так і называецца — бялізнавы. Карункі прышываюцца нават на штаніны джынсаў, не кажучы пра ніз майкі.

Гэтым летам сарафаны ды майкі выглядаюць так, быццам па іх добра прайшліся нажніцамі. На адной рэчы можа быць адразу тры дзіркі. Месцазнаходжанне апошніх вызначаецца фантазіяй мадэльера і нярэдка аказваецца самым нечаканым: і на таліі, і на клубах. Хто камплексуе хадзіць у дзіравай сукенцы ці штанах, можа звярнуцца да збітых, але ўсё ж так і не надакучыўшых разрэзаў. Самыя модныя разрэзы па баках, прычым як на доўгай спадніцы, так і на шырокіх шаўковых штанах. Хаця кароткая даўжыня не выціснутая, перавага аддаецца максі. Такой павінна быць спадніца-парэа. Зрабіць яе проста самастойна. Дастаткова абгарнуцца прамавугольным кавалкам тканіны і замацаваць яго на таліі якім-небудзь зажымам. Такі камплект са спадніцы-парэа і майкі-безрукаўкі часопісы мод называюць ледзь не уніформай гэтага сезона.

Затое кітайская сукенка з экзатычнай засцежкай, што пачынаецца ад сярэдзіны каўнярастойкі спераду і заканчваецца недзе пад маленькім кароценькім рукаўчыкам, на такую ролю не прэтэндуе. Вядома, усходнія матывы не ўсім даспадобы. Хто ж з задавальненнем «апранае» новы вобраз і валасы прыбірае па-ўсходняму, і бровы «выпрамляе» з дапамогай алоўка.

Папулярныя тонкія металічныя бранзалеты знаходзяць «прытулак» аж на перадплеччы. А талію акцэнтуюць шырокія паясы з тканіны ці скуры з груваcткімі круглымі ці прамавугольнымі спражкамі, падобнымі на тыя, што насілі ў 70-х. Дарэчы, з тых гадоў узятыя туфлі ды басаножкі на тонкім высокім абцасе, а таксама шлейка-пятля ў доўгіх прамых сукенках.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*З ЗАЛЫ СУДА*

# Смяротны доўг прадпрымальніка

Уладзімір Канстанцінаў доўгі час лічыўся на Лоеўшчыне адначасова і ўдачлівым камерсантам, і «крутым» хлопцам. Бо, па-першае, будучы яшчэ непаўналетнім, ён стаяў на ўліку ў РАУС, а пасля яго двойчы судзілі, а, па-другое, грошы да яго так і ліплі. Паспрабаваў ён пасля выхаду з калоніі папрацаваць у аўтапарку слесарам ды сталяром, але прыйшоў да высновы: няма дурняў — пры такой напрузе і конь капыты адкінуць можа. Таму і падаўся ў «чаўнакі», заняўся перапродажам спірту, цукру, іншых харчовых і прамысловых тавараў. Так працягвалася да таго часу, пакуль фартуна не адвярнулася ад яго і ён не залез у даўгі да іншага прадпрымальніка. Неўзабаве той заявіў, што ўсе тэрміны вяртання пазыкі даўно прайшлі, а ты, маўляў, не «целішся». Давай, раскашэльвайся...

Кінуўся той туды-сюды, у каго б перахапіць паўтары тысячы долараў, але ніхто яму насустрач ісці не хацеў. Відавочна, у невялікім гарадку ведалі, што за птушка такая Канстанцінаў. І тут на дапамогу нечакана прыйшоў Сяргей Андрэявец, з якім яго звязвала даўняя дружба. Ён пасля заканчэння эканамічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта нейкі час працаваў у мясцовым райаграпрамысловым аб'яднанні, а потым таксама заняўся камерцыяй.

— Патрэбнай табе сумы ў мяне няма, — сказаў ён, —але я магу пазычыць грошы ў дзвюх жанчын. Яны мне павераць. А ўмовы як ва ўсіх: за месяц 20 працэнтаў дадатковых да тых 1500 «баксаў».

— Ты сапраўдны сябар, — пацiснуў яму руку Уладзімір. — Дзякуй, што выручыў.

Атрымаўшы грошы, Канстанцінаў вырашыў «крутануць» іх, пусціць у абарот, каб мець навар. А менавіта на ўсю суму ён закупіў у Светлагорску спанбонд (укрывачны матэрыял для цяпліц) і павёз яго ў Херсонскую вобласць. Ды толькі пралічыўся, тавар раскуплялі дрэнна. Пераехаў з ім у Смаленскую губерню. І там — тое ж самае. Грошы, як кажуць, амярцвелі ў тавары. Кінуўся ён у Падмаскоўе — таксама няма жаданага выніку.

А між тым тэрміны аддачы доўгу Андрэяўцу даўно ўжо мінулі. Жанчыны трывожацца, тармосяць Сяргея: у чым справа? Нервуецца і той — куды падзеўся Канстанцінаў, што ён сабе думае, вунь да якіх памераў выраслі тыя працэнты за пяць месяцаў. І вось Уладзімір нарэшце з'явіўся ў Лоеве. З пустым кашальком і ў дрэнным настроі, які тапіў у спіртным. Напамінак аб вяртанні доўгу (і не толькі Андрэяўцу) пачаў успрымаць з раздражненнем і па п'янай лавачцы заяўляць:

— Вось вазьму ў рукі абрэз і разлічуся з крэдыторамі.

Вядома, ніхто тады не мог падумаць, што гэтыя пагрозы набудуць рэальны змест. І памыліліся. Развязка наступіла ў мінулым жніўні. Канстанцінаў, Андрэявец і яшчэ некалькі прадпрымальнікаў у той дзень не раз і не два наладжвалі выпіўку. У тым ліку і на беразе старога рэчышча Дняпра, дзе ва Уладзіміра было памяшканне для захоўвання лодачнага матора і рыбалоўнага рыштунку. Андрэявец да таго захмялеў, што не змог ісці і заснуў там. Канстанцінаў замкнуў яго ў памяшканні, а вечарам прыйшоў разбудзіць. І калі той, крыху працверазеўшы, напомніў яму пра доўг, рабром вясла чатыры разы агрэў яго па галаве. Потым пацягнуў труп да берага і скінуў яго ў ваду з высокага абрыву, а сам накіраваўся ў гарадскі парк на дыскатэку, дзе весяліўся да таго часу, пакуль родзіч не заўважыў на яго куртцы кроў. Канстанцінаў тут жа рэціраваўся з танцаў і, каб схаваць сляды злачынства, на беразе Дняпра спаліў куртку.

Яго арыштавалі праз тры дні, калі знайшлі труп Андрэяўца.

А потым было следства, якое цягнулася доўга. Калегія па крымінальных справах Гомельскага абласнога суда вынесла яму прыгавор: пятнаццаць гадоў пазбаўлення волі з адбыццём першых 5 у турме і астатніх — у папраўча-працоўнай калоніі строгага рэжыму з прымусовым лячэннем ад алкагалізму.

На судзе Канстанцінаў спрабаваў выкруціцца: маўляў ён не забіваў свайго сябра, аб чым сцвярджаў і ў касацыйнай скарзе ў Вярхоўны суд краіны. Але той, дэталёва вывучыўшы ўсе абставіны справы, пакінуў прыгавор абласнога суда без змянення.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# Старонка Паўла Глобы

**4 ЧЭРВЕНЯ, ЧАЦВЕР**

**Рэкамендацыі.** Захоўвайце дакладнасць, прытрымлівайцеся закона і дагавора, заключанага раней. Лепш быць у ролі падначаленага, чым кіраўніка. Можна пачынаць судовыя працэсы, якія маюць на мэце аднаўленне справядлівасці. Спрыяльны час для перагавораў, паступлення на новую работу. Можна займацца рамонтнымі і будаўнічымі работамі, устанаўліваць сігналізацыю, што-небудзь майстраваць, але нельга ламаць і рушыць. Будзьце асцярожнымі з колючымі і рэжучымі інструментамі. Забараняецца хлусіць, даваць ілжывыя абяцанні. Захоўвайце строгасць у жаданнях.

**Медыцына.** Нельга перагружаць ныркі, эндакрынную сістэму, падстраўнікавую залозу, пазваночнік. Спрыяльны час для ўмацавання зроку, памяці, лячэння хвароб галаўнога мозгу, лёгкіх. Не прымайце сёння антыбіётыкі, абмяжуйце ўжыванне вадкасці.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

*ПРАЦЯГ ТЭМЫ*

# Такі няўлоўны прыватны сектар...

## Праблемы з вывазам бытавых адходаў узнікаюць з-за недастатковай свядомасці гараджан

Менавіта такога меркавання прытрымліваюцца спецыялісты Магілёўскай гарадской інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы прыроды, падкрэсліваючы пры гэтым, што гаворка ідзе перш за ўсё пра прыватны сектар абласнога цэнтра.

Справа ў тым, што, як і раней, у савецкія часы, так і цяпер, існуе наступны парадак: прыватны домаўладальнік павінен наведаць спецыяльнае аўтапрадпрыемства, якое займаецца вывазам смецця, заключыць пісьмовы дагавор, заплаціць грошы ў аддзяленні банка за год, і толькі пасля гэтай працэдуры машына будзе забіраць бытавыя адходы з канкрэтнага пункта. У Магілёве налічваецца каля 18 тысяч землеўладальнікаў, але дагаворы са спецаўтапрадпрыемствам заключылі на сённяшні дзень толькі каля трох тысяч гаспадароў.

Зусім не кошт паслуг па вывазу смецця ўплывае на нізкую актыўнасць жыхароў прыватнага сектара. У месяц кожны жылец павінен плаціць 2400 рублёў, гэтак жа, як і ў шматпавярховых дамах, што не вельмі цяжка для кішэні нават малазабяспечаных людзей. Многія з іх проста не жадаюць траціць час і мець дадатковыя клопаты з наведваннем нейкай установы і ашчадкасы, бо для іх лягчэй пазбавіцца ад смецця ў спакойны час і ў нялюдным месцы, якое на мове спецыялістаў называецца несанкцыяніраванай звалкай. «Нельга сказаць, што Магілёў вельмі ўжо захламлены і забруджаны, але становішча яшчэ вельмі далёкае ад нармальнага», — каменціруе супрацоўнік гарадской інспекцыі аховы прыроды Канстанцін Цеплякоў.

Эколагі і зараз шкадуюць, што ў Беларусі немагчыма прымяніць вопыт еўрапейскіх краін, у прыватнасці Германіі. Там кожны муніцыпалітэт устанаўлівае фіксаваны падатак на вываз і утылізацыю бытавых адходаў, які ў любым выпадку трэба плаціць кожнаму жыхару, дзеючае ж беларускае заканадаўства падобны від падаткаабкладання не прадугледжвае.

Ёсць і іншы шлях барацьбы з несанкцыяніраванымі звалкамі на берагах рэк і ў ярах: сёлета санітарныя службы і экалагічная міліцыя Магілёва праводзілі шэраг рэйдаў па прыватнаму сектару горада, імкнуліся паўплываць на сітуацыю штрафнымі санкцыямі. Але для таго, каб скласці пратакол аб адміністрацыйным праваапарушэнні, трэба канкрэтнага чалавека злавіць каля звалкі з вядром смецця, што ўяўляецца малаверагодным. А за адсутнасць дагавора са спецаўтапрадпрыемствам пакараць грашовым штрафам сама меней незаконна, а таму і немагчыма, вось угаворы і застаюцца працяглы час адзінай зброяй інспекцыі па ахове прыроды.

Але гарадскія ўлады ўсё ж такі здолелі за апошні год палепшыць сітуацыю з вывазам бытавых адходаў з прыватнага сектара. За кошт сродкаў небюджэтнага фонду аховы прыроды на вуліцах «прыватнікаў» устаноўлены кантэйнерныя пляцоўкі. Магілёўскі гарвыканкам не стаў чакаць, калі ўдасца пераканаць домаўладальнікаў жыць цывілізавана, а сам арганізаваў вываз смецця, і, па агульнаму меркаванню, грошы тут улажылі ў добрую справу.

Адначасова з гэтым праводзіцца эксперымент: кантэйнеры для смецця маюць розныя колеры і надпісы і, у адпаведнасці з імі, бытавыя адходы грамадзяне павінны сартаваць. Але збіраць асобна макулатуру, шкло і арганіку нашы людзі яшчэ не хутка прызвычаяцца, культуру нармальнага абыходжання з адходамі сваёй жыццядзейнасці ўдасца, напэўна, прывіць толькі наступнаму пакаленню. Гэты эксперымент якраз і робіцца «на будучае», таму што пакуль размова аб паасобнай перапрацоўцы бытавых адходаў у Магілёве не ідзе. Мясцовы смеццеперапрацоўчы завод выйшаў са строю гады тры таму, ягонай рэканструкцыяй ушчыльную яшчэ не займаліся, хаця адпаведны праект існуе. Прычына знаёмая і зразумелая: не хапае фінансавых сродкаў. Таму ўсе бытавыя адходы Магілёва складзіруюцца на палігоне, першая чарга якога на сённяшні дзень запоўнена ўжо на 70 працэнтаў.

Гарадскія ўлады атрымалі некалькі прапаноў, якія датычацца перапрацоўкі бытавых і прамысловых адходаў, ад замежных фірмаў. Апошняя з іх — ад нямецкай фірмы «Хафнер». Размова ішла аб будаўніцтве ў Магілёве завода па перапрацоўцы таксічных адходаў на 150 тысяч тон у год. Прапанова была, на першы погляд, вельмі прывабная, тым больш, што будаваць прадпрыемства меркавалася выключна за нямецкія грошы. Але потым высветлілася, што значную частку аб'ёмаў для перапрацоўкі замежнікі планавалі прывозіць на новы завод з Германіі. Зразумела, што даць згоду на ўвоз у краіну і горад таксічных адходаў, якія, хутчэй за ўсё, па нейкіх прычынах немагчыма утылізаваць у Германіі, кіраўніцтва абласнога цэнтра не магло. Гэтая прапанова адхілена, а іншыя гэтым часам яшчэ разглядаюцца.

**Ілона ІВАНОВА.**

# Смецце выграб — і суседу?

**Знешне райцэнтры Брэстчыны даволі добраўпарадкаваныя. Цэнтральная частка гарадоў, як правіла, чыстая і прыбраная, а вось ускраіны ў горшым стане.**

Баранавічы ў мінулым годзе лічыліся адным з самых чыстых гарадоў вобласці. Магчыма, яно так і ёсць, але тут перад камунальнымі гаспадаркамі горада стаяць праблемы, якія з'яўляюцца тыповымі для ўсіх нашых населеных пунктаў.

Калі сярод індывідуальных забудоў ёсць хоць нейкая пустка, то яна абавязкова завалена смеццем. Сметнікі робяць на абочынах дарог, каля чыгункі, у прысадках і г.д. Напрыклад, урочышча Гай засмечана празмерна. Лес знаходзіцца ля горада, падступае да пасёлка тэкстыльшчыкаў і сюды, здараецца, прывозяць смецце нават на аўтамашынах.

Найбольшыя непаразуменні ўзнікаюць у прыватным сектары. Там пэўны працэнт дамоў не мае кантэйнераў для смецця. Дакладней, жыхары не хочуць мець.

— Адмаўляюцца катэгарычна, — кажа галоўны інжынер спецаўтабазы камунальнай гаспадаркі горада Яраслаў Давыдзюк, — гавораць, што сваё смецце яны спальваюць ці закопваюць у зямлю.

Вядома ж, гэта не так. Цяжка паверыць, што гаспадар свае бляшанкі ды шкло закопвае на сваім агародзе. Людзі часта скардзяцца: «Вось мы плацім за вываз смецця, а сусед кідае сваё ў наш кантэйнер».

Безумоўна, смецце трапляе да суседа, пад чыйсьці плот альбо ў прыдарожную канаву.

Хаця часта бываюць выпадкі, калі ў інтэрнаце ці кааператыўных дамах смецце ў поліэтыленавым пакеце выкідваюць прама ў акно з верхніх паверхаў.

Тут выступае праблема выхавання чалавека, маралі, але ўсё ж павінен існаваць закон ці пастанова мясцовай улады, якая абавязвала б уладальніка дома мець на сваім участку кантэйнер для смецця.

Дарэчы, і плата за той жа кантэйнер сімвалічная — усяго 2 тыс. 400 рублёў з чалавека.

Праўда, гэтых самых кантэйнераў таксама не хапае, як недастаткова і аўтамашын для вывазу смецця. У Баранавічах такіх машын 18, а неабходна мець 26 адзінак.

У выніку з некаторых сметнікаў у мікрараёнах смецце не вывозіцца тыднямі. І ад гэтага засмечваецца прылеглая тэрыторыя.

Вось і ў Ляхавічах, хаця там пражывае ўсяго 12 тысяч чалавек, праблемы тыя ж. Зноў жа, нервы кіраўніцтву камунгаса псуюць усё тыя ж гаспадары-прыватнікі. Смецце за імі прыходзіцца прыбіраць дзяржаве. Ды і грошай на добраўпарадкаванне горада не хапае. Але гэта праблема тыповая для ўсіх гарадоў вобласці.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**



## Віншаванні

*Шчыра віншую з днём нараджэння **Міхаіла Пятровіча КАВАЛЬКОВА**. Зычу здароўя, шчасця і радасці.*

**Брат Валянцін**, *г. Ельск.*

*Любага зяця **Эдуарда Віктаравіча КІСЦЕНЯ** сардэчна віншуем з днём нараджэння. Жадаем здароўя, дабрабыту, шчасця і радасці.*

**Сям'я Гівойнаў**, *в. Куркава.*

*Віншуем з днём нараджэння дарагую мамачку і любую жонку **Галіну Рыгораўну БОКША**:*

***«Желаем счастья, светлых дней, Здоровья, что всего ценней, Дороги жизни подлинней и больше радости на ней».***

**Дзеці, муж**, *г. п. Карэлічы.*

*Віншуем **Валянціна Мечыслававіча КУЛІНКА** з 40-годдзем. Жадаем здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту.*

**Маці, сястра**, *в. Зябкі Глыбоцкага раёна.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Рэгістрацыйны нумар 1.

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98. ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by. http://www.zvyazda-daily.minsk.by.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 87 610. Індэкс 63850.
Зак. № 3369.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12